



# Рэгіянальная газета

**24 мая 2013 года**
**№ 21** (943)




http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




**... і іншыя хібы нашых кавярняў.**

21-я старонка



**Чым падкармліваць агародныя культуры?**

3-я старонка



**навіны рэгіёна**

## У Вілейцы 25 мая не будзе вады

**ВІЛЕЙКА.** У Вілейцы 25 мая з 6.00 да 21.00 будзе спыненая падача вады. Адбудзецца гэта ў сувязі з планавым рамонтам гарадскіх водаправодных сетак і абсталявання водазабору. Набраць вады можна будзе ў трох месцах: на вуліцы Незалежнасці (ля крамы "Чыркава"), вуліцы Гагарына (ля былой крамы №26), вуліцы Кастрычніцкай (ля былой крамы №25). "Рэгіянальная газета" пісала, што гарачая вада ў Вілейцы адключаная з 15 мая, а з'явіцца 29 мая.

## Вырасце кошт праезду

**МАЛАДЗЕЧНА. ВІЛЕЙКА. ВАЛОЖЫН. МЯДЗЕЛ.** З 23 мая кошт праезду ў грамадскім транспарце вырасце на 300 рублёў і будзе складаць 1700 рублёў. Кошт праязнога білета на месяц на аўтобус складзе 74 500 рублёў, на дэкаду – 26 200 рублёў. Пра гэта паведамілі супрацоўнікі аддзела пасажырскіх перавозак Маладзечанскага аўтапарка. У самыя бліжэйшыя дні кошт праезду ў грамадскім транспарце беларускай сталіцы вырасце да 2000 рублёў.

## Налібоцкая пушча – у лідарах біяразнастайнасці

**ВАЛОЖЫН.** Усебеларускі рэйтынг тэрыторый, самых багатых на віды жывёл і раслін, склала грамадская арганізацыя "Ахова птушак Бацькаўшчыны". Пятнаццаць мясцінаў Беларусі прызнаныя значнымі для захавання відаў і экасістэм на еўрапейскім узроўні. У рэйтынг увайшла Налібоцкая пушча, у якой жывуць такія рэдкія птушкі, як малы арлец, зімародак ды чорны бусел. Таксама там можна пабачыць еўрапейскага зубра, еўрапейскую рысь, барсука і арэшнікавую соню. Ёсць і рэдкія расліны: баранец звычайны, лілея кучаравая і цыбуля мядзведжая.

**Аддзел інфармацыі.**



# Колькі можна хваліць ідэю?

## Праект замчышча Агінскага, распрацаваны ў 2005 годзе, развіваецца, але застаецца на паперы



Малюнкі забяспечаны Міхаілам ТАМАШЭЎСКІМ

Так выглядае адзін з праектаў маладзечанскага замчышча. Асобна вынесены малюнак будынка карчмы, якая некалі знаходзілася тут.

**МАЛАДЗЕЧНА. У пятніцу, 24 мая, у 17.30 у музычным каледжы імя Міхала Клеафаса Агінскага пройдзе 3D-прэзентацыя праекта турыстычнага комплексу ў раёне замчышча.**

На мерапрыемства запрошаны старшыня Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Яхнавец**.

Па словах дырэктара музычнага каледжа **Рыгора Сарокі**, старшыня вельмі зацікаўлены ў аднаўленні замчышча.

– 3D-прэзентацыя праекта – першы крок, – кажа спадар Рыгор. – Хочацца, каб і гатэль быў, і возера, і крыніца, адкуль бы людзі бралі ваду. Трэба, каб і крама была, дзе можна было б набыць сувеніры. У Беларусі ёсць Нясвіжскі замак, Мірскі замак, куды прыязджае шмат замежнікаў і дзе заўсёды натоўпы. Чаму б не існаваць і замку Агінскага? Гэта багацце нашай краіны. Цяпер жа даводзіцца глядзець на лысую гару.

Калі будынак разбураны на 80 працэнтаў, то ў адпаведнасці з беларускім заканадаўствам, аднаўленню ён не належыць. Таму немагчыма дамагчыся дазволу на рэканструкцыю замка.

– Але самае галоўнае для нас – знайсці інвестараў, якія б далі грошы на аднаўленне замчышча, – кажа Рыгор Сарока. – На прэзентацыі мы пакажам толькі прыблізны праект аднаўлення замка. У гэты праект свае прапановы можа ўнесці кожны зацікаўлены чалавек. Але ў любым выпадку фонд будзе кантраляваць карэкціроўкі праекта, каб замак захаваў культурна-гістарычную спадчыну.

### 3D-праект рабілі цягам двух месяцаў

За падрабязнасцямі прэзентацыі мы звярнуліся да **Мікалая Тамашэўскага**, намесніка старшыні праўлення мясцовага дабрачыннага фонду "Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага".

– У 3D-праекце можна пабачыць усё ў каляровым выглядзе. Там будзе 6 ці 8 слайдаў, на якіх можна паглядзець кожны будынак асобна. А таксама ўявіць, якім можа выглядаць турыстычны комплекс, – кажа спадар Мікалай.

Над 3D-праектам працавала шэсць чалавек. І дызайнеры, і праграмісты, і ландшафтнікі. Каманда распрацавала праект за два месяцы.

– Мэта прэзентацыі – стварыць агульную карціну новага аб'екта, якой бы ў выніку мог зацікавіцца і сам горад, і інвестары, – кажа спадар Мікалай. – Важна, каб у зямлі ўрэшце з'явіўся гаспадар. І новаму старшыні райвыканкама трэба будзе вырашыць, у чые рукі аддаваць яе. Мы хочам паказаць, што праект – грамадзянская ініцыятыва.

Мікалай Тамашэўскі займаецца тэмай замчышча з 2005 года. Цяпер такі праект, якім яго бачыць спадар Мікалай, дэталёва распрацаваны. Ці будзе ён рэалізаваны на практыцы – усё яшчэ пытанне.

– Кожны са старшыняў райвыканкама, якія былі ў Маладзечне за апошнія гады, хваліў ідэю аднаўлення замчышча, – кажа Мікалай Тамашэўскі. – Кожны яе на словах падтрымліваў. Які вынік ёсць – мы ўсе бачым.

**Аляксандра ПАРАХНЯ, Вольга ЮРКЕВІЧ.**

 



СВЯТЫ

# “Ноч музеяў” вярнула ў савецкую эпоху

**МЯДЗЕЛ. Чырвонаармеец і Астап Бэндар, казакі і піянеры – такіх герояў можна было пабачыць у Музеі народнай славы 18 мая. Гэта ў Мядзеле адбывалася свята “Ноч музеяў. Мы нарадзіліся ў СССР”.**

Пасля адкрыцця свята на плошчы Шаранговіча гараджане накіраваліся ў музей. Там іх падзялілі на атрады і запрасілі ў падарожжа ў савецкі час. У залах музея яны маглі акунуцца ў перыяды з 20-га па 80-я гады мінулага стагоддзя. А конкурсы тут праводзілі героі тых дзесяцігоддзяў. Трэба было расшыфраваць савецкія імёны, адгадаць цытаты з вядомых кінафільмаў і песні, абгарнуць ногі анучамі, станцаваць танцы тых часоў, узгадаць, што колькі каштавала. І калі цану паўлітра гарэлкі ці “Волгі” ўгадвалі без цяжкасцяў, то некаторыя лічбы прымушалі задумацца. Скажам, што каштавала паўтара рубля? А столькі трэба было аддаць за рэгістрацыю шлюбу ў ЗАГСе.

– Так і было, – пацвярджае адна з мядзяльчанак. – Муж дагэтуль смяецца: “Я цябе за паўтара рубля купіў!”

Гледачы пабачылі савецкія матацыклы і веласіпеды (радасна дзяліліся: “я і на гэтым, і на гэтым пракаталася”), разглядалі рэчы і плакаты той эпохі. А ў інсталяцыі “Старая кватэра” многія пазнавалі “свае” рэчы: “У мяне дыванок такі быў”.

Патомны казак з Мінска **Ігар Бабіцкі** з жонкай Алай задавалі пытанні пра ўдзел казацтва ў Вялікай Айчыннай вайне, а сын **Арцём** паказваў уменне фланкіравання шашкай.

Бачна, што некаторыя мядзяльчане даўно ў музеі не былі: здзіўляліся, што, калі яны вучыліся ў школе, такіх экспазіцый тут не было. Ды і не толькі экспанатамі савецкіх часоў цікавіліся наведнікі: распытвалі супрацоўніц музея пра гісторыю горада.

Тыя, хто актыўна ўдзельнічаў у конкурсах, займеў усе адзнакі ў абходным лісце, атрымаў права на бясплатнае наведванне ўсіх выстаў у музеі да канца 2013 года.

Каля музея працаваў аформлены ў савецкім стылі буфет з красамоўным плакатам “Водкі нет”.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Буфет ля музея.

І пакуль наведнікі музея здзяйснялі падарожжа па савецкай эпосе, на плошчы Шаранговіча гучалі песні тых часоў. Выступалі мясцовыя артысты і з Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра імя Жыновіча.

– Для музея гэта першы досвед, – падводзіць вынік “Ночы музеяў” дырэктар Музея народнай славы **Святлана Чарняўская**. – І ў будучым будзем стараццa праводзіць такія “Ночы”, толькі, вядома, будзем выбіраць іншыя тэмы. Прыемна, што шмат людзей пабывала ў музеі. Яны не толькі зайшлі з цікавасці: з задавальненнем удзельнічалі ў конкурсах, правяралі, ці ўсё памятаюць з савецкіх часоў. І старэйшыя, і маладыя наведнікі стараліся ўзгадаць песні тых часоў, станцаваць.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Фестываль “Адна зямля” – трэцяе кола

**МАЛАДЗЕЧНА. Фестываль “Адна зямля” сёлета пройдзе на сцэне маладзечанскага амфітэатра 9 чэрвеня.**

Штогодні рэгіянальны фестываль-конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні “Адна зямля” пройдзе 9 чэрвеня ў амфітэатры. Гэтым самым пачынаецца трэці цыкл гісторыі самага вядомага ў нашым рэгіёне эстраднага фэсту.

Сёлетняй адметнасцю свята стане не толькі сцэнічная пляцоўка – амфітэатр, пабудаваны да “Дажынак-2011”, але і час правядзення. Фактычна, “Адна зямля” будзе трэцім днём фестывалю Нацыянальнай песні і паэзіі “Маладзечна-2013”, які пачнецца 7 чэрвеня.

Пра гэта нам расказала дырэктар раённага метадычнага цэнтра народнай творчасці **Ганна Уладыка.**

Фестываль, які ўпершыню прымала Маладзечаншчына ў 1999 годзе ў Чысці, будзе праводзіцца ўжо ў 15-ы раз. Папярэдні прымала суседняя Вілейка.

У мінулы чацвер у Маладзечне прайшло арганізацыйнае пасяджэнне аргкамітэта па правядзенні фэсту, у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі аддзелаў культуры рэгіёна.

У фестывалі прымуць удзел выканаўцы чатырох узроставых груп. Малодшым удзельнікам можа быць 9 гадоў, старэйшым – 30.

У межах фестывалю пройдзе і выстава майстроў народных промыслаў. Тым, хто хоча прыняць удзел у выставе, трэба звяртацца ў аддзелы культуры сваіх райвыканкамаў.




**Глобус “Адна зямля” – пераходны сімвал фестывалю, які ад 2006 года перадаецца ад раёна-арганізатара наступнаму. Летась глобус перадалі маладзечанцам віляйчане.**

**Даведка “РГ”.** “Адна зямля” – рэгіянальны фестываль-конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні, які праводзіцца па чарзе ў адным з раёнаў Беларускага Павілля і на Валожыншчыне: Маладзечанскім, Вілейскім, Мядзельскім і Валожынскім Мінскай вобласці і Смаргонскім, Ашмянскім, Астравецкім Гродзенскай вобласці.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

**Пра гісторыю фестывалю чытайце ў наступным нумары “РГ” і на нашым сайце rh.by.**



КУЛЬТУРА

## Спаборнічалі разьбяры

**МЯДЗЕЛ. У суботу, 18 мая, у Мядзеле прайшло шостае рэгіянальнае свята-конкурс разьбяроў па дрэве “Разьбы зачараванне”. Удзельнічалі ў ім 26 майстроў. Тры гады таму, калі Мядзел таксама прымаў падобнае свята, іх было больш – 34.**

Прыехалі разьбяры з Чэрвеньскага, Стаўбцоўскага, Бярэзінскага раёнаў. З нашага рэгіёна былі майстры з Валожынскага раёна і Мядзельскага (к.п. Нарач (Купа) і Крывічоў). Сярод удзельнікаў былі і дасведчаныя творцы, і юныя таленты.

Размясціліся майстры са сваімі вырабамі ў цэнтры горада – на плошчы Шаранговіча. І кожны ахвотны мог убачыць, якія дзівосы можна ствараць з дрэва: ад маленькіх і простых рэчаў да вялізных пано.

Вось **Яўген Осіпаў** з Беразіно другі раз на свяце ў Мядзеле. Прывёз разнастайныя вырабы: тут і лыжкі – адметныя, з цікавымі надпісамі, і прыгожыя скульптуры. Многія звярталі ўвагу на яго скульптуры з выявай Леніна – правадыру майстар прысвяціў некалькі прац, у тым ліку і жартаўлівых.

Майстры не толькі прадстаўлялі свае работы: прайшоў конкурс на хуткасць і якасць выканання твору. На яго выраб адводзіліся тры гадзіны.

– У конкурсе ўдзельнічаюць чатыры нашы прадстаўнікі, – кажа дырэктар Крывіцкага цэнтра народных рамёстваў **Уладзімір Хіхіч**. – Гэта майстры **Генадзь Скурко** і **Уладзімір Гаранін** і гурткоўцы **Віталь Лётка** і **Яўген Зянько**.

– Разьбой цікава займацца, і рэчы прыгожыя можна зрабіць. А ў конкурсе такім прыемна паўдзельнічаць, – кажа **Яўген Зянько**.

– Тут столькі ўсяго прыгожага прывезлі, якія карціны з дрэва! – не хавае захаплення **Віталь Лётка**.

Вырашыў прыняць удзел у конкурсе і **Вячаслаў Броска** з к. п. Нарач (Купа).

– Проста люблю ўсё з дрэва рабіць, – дзеліцца ён.

Валожынскі раён прадстаўлялі гурткоўцы Дорскага філіяла Івянецкай школы мастацтваў. Пазнаць нашых майстроў **Сяргея Пупко**, **Вадзіма Ганчарыка**, **Сямёна Новіка** было лёгка – працавалі яны ў нацыянальных строях. А дапамагаў ім парадай выкладчык **Сяргей Мурашоў**.

Пасля завяршэння конкурсу журы падвяло вынікі. Лепшых вызначылі ў дзесяці намінацыях. У кожнай былі лаўрэаты і прызёры. А створаныя падчас свята вырабы застануцца на Мядзельшчыне – у Крывіцкім цэнтры народных рамёстваў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Яўген Осіпаў са сваім творам.

## Пройдуць Першыя кандрацьеўскія чытанні

**ВІЛЕЙКА. 25 мая а 11 гадзіне ў зале выстаў імя Сіліванoвіча краязнаўчага музея адбудзецца навуковая канферэнцыя “Першыя кандрацьеўскія чытанні “Талент, непадуладны часу”.**

Выступяць дакладчыкі як мясцовыя, так і сталічныя – з універсітэта культуры і мастацтваў і педагагічнага ўніверсітэта, адбудзецца прэзентацыя кнігі Аляксандра Смоліка “Божы дар Івана Кандрацьева”.

Удзельнікі канферэнцыі наведаюць малую радзіму Івана Кандрацьева – вёску Каловічы.

Іван Кандрацьеў (1849-1904) – пісьменнік, драматург, жывапісец, падарожнік. Нарадзіўся ў вёсцы Каловічы Вілейскага павета Віленскай губерні – цяпер Вілейскі раён.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



 

ШТО РАБІЦЬ

# Чым падкормліваць агародныя культуры?

**МАЛАДЗЕЧНА. "Што рабіць, агарод у мяне зусім чэзлы? – Спытаў нейкі мужчына на базары ў свайго сябра. – З чаго пачаць?" Адказ быў вельмі просты: "Пачні ўносіць у зямлю на агародзе гной".**

Але не толькі гноем можна павысіць урадлівасць глебы.

На самой справе, унясенне гною – гэта просты, стары і правераны дзедаўскі спосаб угнаення зямлі. І досыць эфектыўны. Па сваіх суседзях-агародніках бачу: хто ўносіць яго больш-менш рэгулярна, у таго і ўраджаі вышэйшыя.

– Лепш за ўсё перад пасадкай агародніны ўнесці комплексныя ўгнаенні. У іх аснове ляжыць азот, які адказвае за актыўны рост, – кажа начальнік аддзела агароднінных культур Маладзечанскай сортавыпрабавальнай станцыі **Валянціна Пахомчык**.

Не менш важны вясной і фосфар, які спрыяе росту каранёў, і калій, які падтрымлівае цвіценне, што дае ў выніку большы ўраджай.

Калі казаць пра дозу ўгнаенняў, то на гектар зямлі трэба 18 кілаграмаў азоту, фосфару і калію.

– Падкармліваць агародныя расліны трэба азотнымі ўгнаеннямі, кажа спадарыня Валянціна. – Лепш за ўсё аміячнай салетрай. Ёй можна падкормліваць усе культуры: і капусту, і буракі, і моркву, і цыбулю, і агуркі з памідорамі.

Што тычыцца цыбулі, то яе трэба падкормліваць два разы. Як толькі пачынаюць прарастаць некалькі лісцікаў, то адразу неабходна яе падкарміць. Тут аміячнай салетры ідзе палова цэнтнера на гектар. А калі ўжо ідзе масавае прарастанне пёраў цыбулі, трэба яшчэ разок яе падкарміць. Зноў жа аміячнай салетрай – палова цэнтнера на гектар.

Акрамя асноўных угнаенняў існуюць і мікраўгнаенні. Яны змяшчаюць магній, марганец, бор. Іх трэба разводзіць вадой, а агародніну апырскваць, але можна і пад корань.

Вось борныя ўгнаенні лепш выкарыстоўваць тады, калі расліна пачынае цвісці. Гэта спрыяе большай ўраджайнасці і з'яўляецца менш пустацвету.

Спадарыня Валянціна кажа, што лепшыя мікраўгнаенні – кеміра. Але неабходна сачыць і за самім развіццём расліны, звяртаць увагу на яе недахопы. Трэба глядзець на афарбоўку лісця. Напрыклад, калі лісце бледна-зялёнае, то расліне не хапае азоту.

Усе гэтыя ўгнаенні падыходзяць для адкрытага і закрытага грунту.

Падкормку агародніны нельга рабіць у вільготнае надвор'е, бо расліна можа атрымаць апёк і пашкодзіць лісце. А гэта адаб'ецца на ўраджаі. Лепш гэта рабіць у сухое і халаднаватае ды бліжэй да вечара, бо раніцай раса і таксама вільготна.

Увосень жа ў падкормках і ўгнаеннях пераважае гной. На адну сотку зямлі трэба ўнесці прыкладна 500 кілаграмаў гною. Але лепш за ўсё выкарыстоўвайць гной не ў "свежым" выглядзе, а "давесці яго да розуму" і даць яму перапрэць.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**



Фота Ігара МАРОЗА.

**"Бульбу пасадзілі, але пакуль яна вырасце, давядзецца яшчэ добра папрацаваць", – кажа маладзечанка Кацярына Мароз.**

| Курсы валют НБ РБ | 16.05 | 23.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 8 650,00 | **8 690,00** |
| Еўра | 11 150,00 | **11 230,00** |
| Злоты | 2 674,75 | **2 689,24** |
| Літ | 3 232,26 | **3 253,71** |
| Расійскі рубель | 275,00 | **278,50** |
| Грыўня | 1 062,00 | **1 066,78** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 22.05** | | |
| Долар ЗША | 8630/8690 | **8660/8730** |
| Еўра | 11130 /11250 | **11180/11280** |

| Цэны на рынку (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **15.05** | **22.05** |
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 114900 | **115100** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45600 | **45050** |
| **Свініна, лапатка**, 1кг | 55000 | **55000** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 85000 | **85000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 23500 | **25500** |
| **Шашлык, паўфабрыкат**, 1 кг | – | **52500** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 20800 | **23500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 19000 | **20500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 92000 | **85000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9900 | **10600** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9300 | **9300** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 11000 | **10500** |
| **Алей** | 15600 | **12500** |
| **Маянэз**, 200 г | 4800 | **4800** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7200 | **5500** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **24000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 8900 | **7000** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 7500 | **6900** |
| **Капуста**, 1 кг | 12500 | **9300** |
| **Морква**, 1 кг | 6500 | **5000** |
| **Буракі**, 1 кг | 5300 | **5300** |
| **Лімоны**, 1 кг | 22900 | **18000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 13000 | **12500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 24000 | **31000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 18900 | **17900** |
| **Радыс, 1 кг** | – | **4000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 13000 | **13500** |
| **Перац**, 1 кг | 25000 | **46800** |
| **Вінаград**, 1 кг | 26500 | **25000** |
| **Бананы**, 1 кг | 12000 | **12200** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 10000 | **9300** |
| **Грушы**, 1 кг | 22900 | **22900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 70000 | **70000** |
| **Тварог**, 1 кг | 45000 | **40000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 17000 | **17000** |
| **Сала**, 1 кг | 58000 | **55000** |
| **Бульба маладая**, 1 кг | 16000 | **16000** |
| **Мёд**, 1 кг | 50000 | **50000** |

ЭНЕРГАНАГЛЯД

## Цяпло: дзейнічаюць новыя нарматыўныя дакументы

**У адпаведнасці з дзеючымі нарматыўнымі дакументамі цеплатэхнічная інспекцыя Маладзечанскага міжраённага аддзялення "Энерганагляд" пры кантролі за станам цеплавой гаспадаркі арганізацый звяртае асаблівую ўвагу на:**

– спраўны тэхнічны стан цеплаўстановак, якія выкарыстоўваюцца, і цеплавых сетак;

– бяспечную эксплуатацыю цеплаўстановак і цеплавых сетак;

– Надзейнае забеспячэнне цеплавой энергіяй спажыўцоў.

Зацверджаны і ўведзены ў дзеянне з 01.03. 2013 пастановай Міністэрства энергетыкі Рэспублікі Беларусь ад 26 снежня 2012 № 66:

– Тэхнічны кодэкс існуючай практыкі (далей ТКП)

ТКП 459-2012 "Правілы тэхнікі бяспекі пры эксплуатацыі цеплаўстановак і цеплавых сетак спажыўцоў";

– ТКП 459-2012 "Правілы тэхнічнай эксплуатацыі цеплаўстановак і цеплавых сетак спажыўцоў".

Раней зацверджаны і ўведзены ў дзеянне з 1 верасня 2012 года пастановай Міністэрства энергетыкі Беларусі і Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі ад 6 ліпеня 2012 г. №2718 ТКП 388 – 2012 "Правілы падрыхтоўкі і правядзення асенне-зімовага перыяду энергазабеспячальнымі арганізацыямі і спажыўцамі цеплавой энергіі".

У адпаведнасці з пунктамі 5.8 і 5.9 ТКП 458-2012 адказным асобам за агульны стан цеплавой гаспадаркі энергазабеспячальных арганізацый і спажыўцам цеплавой энергіі неабходна прайсці пазачарговую праверку ведаў у камісіі Маладзечанскага РВК з абавязковым удзелам прадстаўніка органа Дзяржаўнага энергетычнага нагляду.

Па пытаннях ТКП, надзейнасці і бяспекі цеплазабеспячэння Вашых аб'ектаў звяртацца ў кабінет №31 маладзечанскага МРА "Энерганагляд".

**Галіна КОЛБУН, дзяржаўны інспектар Маладзечанскага МРА "Энерганагляд".**

ПРАКУРАТУРА, СУД

# Захацеў пераплыць вадаём і патануў



Фота Ігара МАРОЗА.

Перад тым, як пераплыць вадаём, падумайце, ці хопіць вам сіл.

**МАЛАДЗЕЧНА. Малады хлопец загінуў на вадаёме ў вёсцы Баяры каля 18 гадзін вечара 18 мая.**

Штогод на Маладзечаншчыне на вадзе гінуць людзі. Безумоўна, іх колькасць расце менавіта з надыходам гарачых дзён і адкрыццём купальнага сезона.

Сёлета на вадзе загінуў адзін чалавек, хаця летась за такі самы перыяд патанула пяць чалавек. Аднак гэты факт з'яўляецца хутчэй выключэннем, чым правілам, і звязаны, хутчэй за ўсё, з тым, што доўга было холадна.

Малады 20-гадовы хлопец 18 мая адпачываў з кампаніяй сяброў і братам на беразе вадаёма ў вёсцы Баяры. Ён зайшоў у ваду і паспрабаваў пераплыць на іншы бераг. Як кажуць відавочцы, да берага яму заставалася 10 метраў, калі ён знік пад вадой і больш не з'явіўся.

У той жа вечар вадалазы вывучылі дно вадаёма ўздоўж берага, дзе патануў маладзён, аднак пошукі нічога не далі. Труп маладога чалавека знайшлі вадалазы вілейскай выратавальнай станцыі на наступны дзень у 60 метрах ад берага на глыбіні трох метраў.

Трэба адзначыць, што кампанія маладых людзей, у якой адпачываў хлопец, выпівала. І ў ваду ён палез у нецвярозым стане.

Большасць няшчасных выпадкаў, звязаных з гібеллю людзей на вадзе, адбываюцца менавіта з-за невыканання элементарных правілаў паводзінаў на вадаёмах, злоўжывання алкаголем і купання ў забароненых для гэтага месцах.

## Дзе можна купацца, а дзе – не

На Маладзечаншчыне для купання і масавага адпачынку дазволеныя толькі пяць вадаёмаў: вадаём "Удранка" ў Радашкавічах, вадаём санаторыя "Сасновы бор", вадаём у пасёлку Беразінскае, вадаём Дома адпачынку "Алеся" і вадаём паблізу вёскі Хажова. У іншых сажалках, кар'ерах і вадаёмах на Маладзечаншчыне купацца забаронена.

Акрамя таго, падчас планавання і правядзення адпачынку паблізу вады неабходна памятаць, што адпачывальнікам забараняецца:

– купацца ў забароненых для гэтага месцах рэк, азёр, вадасховішчаў, сажалак і іншых вадаёмаў;

– распіваць у месцах адпачынку спіртныя напоі;

– заплываць за буі і іншыя знакі, якія абазначаюць зоны купання;

– падплываць да суднаў, лодак ці іншых плавальных сродкаў;

– узбірацца на тэхнічныя і папераджальныя знакі, буі і іншыя прадметы;

– скакаць у ваду з лодак, катараў, прычалаў, іншых збудаванняў, якія не прыстасаваныя для гэтых мэт;

– выкарыстоўваць выратавальныя сродкі і амуніцыю не па прызначэнні; плаваць на дошках, лежаках, бярвеннях, аўтакамерах, надзіманых матрацах;

– арганізоўваць гульні ў вадзе, звязаныя з ныраннем і захопам таго, хто купаецца;

– падаваць ілжывыя сігналы трывогі;

– парушаць рэжым утрымання водаахоўных зон;

– мыць на пляжах бялізну і жывёл.

Ні ў якім разе нельга пакідаць без нагляду паблізу адкрытай вады малых дзяцей. Яны могуць патануць імгненна. Нават на мелкаводдзі будзьце побач з імі.

Вада не любіць памылак, не даруе бяспечнасці і легкадумнасці.

**Роберт ЗУБАІРАЎ,**
**пракурор**
**Маладзечанскага раёна.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Большасць пацярпелых скутарыстаў – пажылыя і падлеткі

**Цяпер на дарогах рэзка ўзрасла колькасць ДТЗ з удзелам скутараў. Як правіла, ні адзін з пацярпелых не меў пасведчання кіроўцы.**

Праверкі паказалі, што асноўнымі прычынамі аварый сталі няведанне скутарыстамі правілаў дарожнага руху, адсутнасць навыкаў у кіраванні і элементарнага прадстаўлення пра месцазнаходжанне двухколага транспарту адносна праезнай часткі.

Між іншым, большая частка пацярпелых скутарыстаў – людзі пажылога ўзросту і падлеткі.

Падчас кіравання гэтым, на першы погляд, бясшкодным транспартам, нельга грэбаваць сваёй бяспекай. Паклапаціцеся пра сябе самі:

1. Скутар і моташлем – паняцці непадзельныя.

2. Вы павінны рухацца разам са спадарожным транспартным патокам у метры ад краю праезнай часткі дарогі.

3. Пры здзяйсненні на сваім транспарце манеўраў, а менавіта паваротаў налева, направа, развароту, аб'езду перашкодаў, – паглядзіце па баках і ўпэўніцеся, што вашы дзеянні будуць бяспечныя.

4. Сігналы аб далейшым вашым манеўраванні неабходна паказваць загадзя і згодна з правіламі.

5. Як і кіроўца аўтамабіля, скутарыст павінен паважаць пешаходаў.

6. Скутарыст, які кіруе транспартам у нецвярозым стане, як і кіроўца аўтамабіля, прыцягваецца да адміністрацыйнай адказнасці. У гэтым выпадку прадугледжаны штраф да 3,5 мільёна рублёў альбо адміністрацыйны арышт.

7. ДТЗ, якія здарыліся з-за кіроўцы скутара, нясуць за сабой адміністрацыйную адказнасць у выглядзе штрафу да трох мільёнаў рублёў.

8. Больш падрабязную інфармацыю па кіраванні скутарам і рэкамендацыі па выкананні правілаў вы можаце атрымаць у інспектараў ДАІ пры асабістым звароце.

## Акцыі

Дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці інфармуе, што з 23 да 31 мая праводзіцца прафілактычная акцыя пад дэвізам "Небяспечны груз".

Яе мэта – выяўленне і спыненне фактаў парушэння ПДР кіроўцамі пры перавозцы небяспечных грузаў аўтамабільным транспартам.

**Дзяржаўтаінспекцыя**
**Мінскай вобласці.**



СЛУЖБА 101

# У альтанцы каля дома згарэў мужчына

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарэнне адбылося ў Маладзечне 18 мая каля 20.30.**

Мужчына жыў разам з жанчынай, яе дачкой і маці ў іх доме.

Апошнім часам ён часта сварыўся са сваёй сужыцелькай. Стаў злоўжываць алкаголем і пагражаць, што калі-небудзь спаліць альбо альтанку, альбо дом.

Свае намеры 43-гадовы мужчына спраўдзіў.

У суботу вечарам ён прыйшоў пасля працы і выпіў піва, – распавядае следчы па асабліва важных справах Маладзечанскага аддзела Следчага камітэта **Марына Рагінская**. – Потым яшчэ недзе дадаў. У 20.00 вярнуўся дамоў і сеў у альтанку. Сужыцелькі ў гэты час дома не было. Полымя заўважыла яе маці праз акно. Прыехалі выратавальнікі, патушылі альтанку і знайшлі цела загінулага.

Прычына пакуль што ўстанаўліваецца, – кажа начальнік Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных здарэннях **Вячаслаў Грынь**. – Як загарэлася альтанка, дакладна невядома, але без бензіну тут не абышлося.

**Настасся РОЎДА.**

ЗДАРЭННІ

# Дзвюх жанчын адначасова абакралі на рынку

**ВІЛЕЙКА. Здарэнні адбыліся ў Вілейцы ў нядзелю, 19 мая, каля 11.00.**

Пажылая жанчына дакладна не вырашыла, што зрабіць з дзвюма з паловай тысячамі долараў і пяццю тысячамі расійскіх рублёў: ці купіць помнік, ці пакласці на банкаўскі рахунак.

Узяўшы ўсе грошы, яна накіравалася на рынак і зазірнула ў валютны абменнік, каб пакласці грошы на тэлефон. Адстаяла чаргу, паклала, потым прайшлася па гандлёвых радах і ўсё: грошай не стала.

## Другі выпадак

Маладая жанчына таксама пайшла на рынак, каб набыць дзіцячыя рэчы для сваёй дачкі. Там сустрэлася са сваёй маці.

Яны разам памянялі 50 долараў у абменніку, а потым накіраваліся да гандлёвых радоў.

Праз паўгадзіны кашалька ў маладой жанчыны ўжо не стала. У ім было 650 тысяч рублёў, залаты крыжык і дакументы.

Пра здарэнні расказаў начальнік Вілейскага аддзела Следчага камітэта **Мікалай Раманчук**.

**Настасся РОЎДА.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Мужчына паехаў у краму – склалі восем пратаколаў

**АСТРАВЕЦ. Мужчына з вёскі Варняны 17 мая вырашыў паехаць у краму.**

На дарозе супрацоўнік ДАІ падаў жэзлам сігнал, каб праверыць дакументы.

Мужчына кіўнуў галавой і зрабіў выгляд, што збіраецца спыніцца. Але ён падмануў супрацоўніка ДАІ: павялічыў хуткасць і памчаўся далей.

Уцякаючы ад машыны ДАІ, мужчына ледзь не збіў дзяўчынку, якая ехала на ровары.

Спачатку міліцыянер стрэліў у паветра, а потым яшчэ некалькі разоў па колах. Мужчына зразумеў, што так ён не ўцячэ ад міліцыі і звярнуў у рапсавае поле. Кінуўшы там машыну, схаваўся.

Кіроўцу "Жыгулёў" атрымалася затрымаць з дапамогай службова-вышуковай сабакі памежнай службы. Да іх па дапамогу звярнуліся супрацоўнікі міліцыі.

Усяго на парушальніка склалі восем пратаколаў. Па-першае, мужчына правоў кіравання не мае. Страхавога пасведчання ў затрыманага таксама не аказалася. Аўтамабіль тэхагляду не праходзіў. За апошні тыдзень супрацоўнікі дарожнай інспекцыі затрымалі яго за рулём ў другі раз.

Пра гэта паведаміў начальнік аддзела агітацыі і прапаганды Гродзенскай Дзяржаўтаінспекцыі **Яўген Дудко**.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## Папраўка

У мінулым нумары "Рэгіянальнай газеты" дапушчаная недакладнасць. Аўтар матэрыялу "Пачаў душыць жонку на вачах у дзіцяці" – памочнік пракурора Ашмянскага раёна Аляксандр Лях.

Просім прабачэння ў аўтара матэрыялу і чытачоў.

ВОЛЬНЫ ЧАС

# Інваліды хочуць напаўняць жыццё дзеяннем



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

У памяшканні праўлення Маладзечанскага раённага таварыства інвалідаў Беларускага таварыства інвалідаў заўсёды нехта ёсць. Папулярныя тут настольныя гульні. На гэты раз у шахматы і шашкі гуляюць члены праўлення: (злева направа) Міхаіл Філіпчанка, Соф'я Цімашэнка – намесніца старшыні, Соф'я Арловіч – бухгалтар, Таццяна Шыман, Клаўдзія Догель – загадчыца спартыўнага сектара, Васіль Таркан – старшыня.

**МАЛАДЗЕЧНА. Больш за паўтысячы чалавек аб'ядноўвае раённае таварыства інвалідаў. І каля 300 з іх – людзі актыўныя.**

Напярэдадні 25-годдзя раённага таварыства аб гэтым нам расказаў яго старшыня **Васіль Таркан**.

– Людзі не хочуць замыкацца ў сабе, – кажа суразмоўца. – Яны жадаюць напаўняць сваё жыццё дзеяннем, рухам. Канешне, не кожнаму інваліду пад сілу самому прыйсці ў праўленне на вуліцы Вольнай, 9, дзе мы збіраемся пастаянна. А той, хто здатны, наведвае дома цяжка хворых і нямоглых.

Васіль Таркан кажа, што арганізацыя рэгулярна наладжвае спартыўныя спаборніцтвы па дартсе, лёгкай атлетыцы сярод інвалідаў, асабліва папулярныя гульні ў шашкі і шахматы. Ездзяць і на экскурсіі. Сёння інваліды згадваюць аб паездцы ў Жыровічы.

Для інвалідаў-дзяцей і дзетак інвалідаў заўсёды на Новы год рыхтуюцца падарункі. Ніколі не забываюцца на юбіляраў, якіх абавязкова ўшаноўваюць каштоўнымі падарункамі.

Старшыня праўлення адзначае, што таварыства атрымлівае гуманітарную дапамогу ад дабрачынных арганізацый з Германії.

Васіль Таркан ад імя інвалідаў папрасіў праз "Рэгіянальную газету" перадаць падзяку кіраўнікам маладзечанскіх прадпрыемстваў **Міхаілу Ангерчыку** ("Маладзечанскі завод металаканструкцый"), **Яўгену Андрыенку** (ААТ "Маладзечнажалезабетон"), **Уладзіміру Бялько** (ААТ "Завод ЖБК"), **Наталлі Галоцэ** (ААТ "Завод ЭНЭФ"), **Міхалаю Мінцу** (друкарня "Перамога"), **Вользе Вялічцы** (ЗАТ "Спецпраект"), **Сяргею Вайтовічу** (УП "Рамбудпуць").

– Сёння часта здараецца так, – кажа Васіль Таркан, – што тыя, хто стаў інвалідам, застаюцца сам-насам са сваімі праблемамі. Мы хочам, каб і ў гэтых людзей з'явілася нешта светлае ў жыцці, надзея на лепшае. А цяжкасці лепш пераадольваць разам. Прыходзьце да нас, тэлефануйце. І не важна, дзе вы жывяце. Мы рады прыняць у сваё таварыства і тых, хто жыве па-за межамі Маладзечанскага раёна. Да нас прыязджалі людзі з Вязыні, і мы аказвалі ім дапамогу, падтрымлівалі.

"Рэгіянальная газета" віншуе членаў Маладзечанскага раённага таварыства інвалідаў з 25-годдзем арганізацыі і жадае ім здароўя і аптымізму яшчэ на доўгія гады.

**Мікола ГАЙДУК.**

# Будзьце пільныя: рыбалка можа быць небяспечнай

**Маладзечанскія электрычныя сеткі папярэджваюць грамадзян аб неабходнасці захоўваць Правілы аховы электрычных сетак вышэй за 1000 В. Ёсць выпадкі гібелі людзей пры лоўлі рыбы паблізу і пад правадамі паветраных ліній (ПЛ).**

Летась 14 чэрвеня жыхар Пастаўскага раёна лавіў рыбу, наблізіў вуду да правадоў паветранай лініі напружаннем 110 кВ і быў паражоны электрычным токам.

Тое самае здарылася і з жыхаром Мінска ў тым годзе 17 чэрвеня пры лоўлі рыбы на возеры паблізу вёскі Скамарошкі. Ён загінуў.

Сёлета 22 красавіка загінуў жыхар Магілёва. Ён таксама лавіў рыбу і наблізіў вуду на недапушчальную адлегласць да правадоў паветранай лініі 35 кВ.

А 23 красавіка загінуў жыхар Віцебска. Ён і яго два браты на дзюралевай лодцы плылі па ручаі каля населенага пункта Бароўка. Пераплываючы разліў ручая пад ПЛ, мужчына, відаць, наблізіўся на недапушчальную адлегласць да правадоў ПЛ 10 кВ і быў смяротна паражоны электрычным токам.

7 мая ў раёне вёскі Пашкавічы Мінскага раёна паблізу вадаёма ачышчаных збудаванняў трапіў пад напружанне яшчэ адзін жыхар Мінска. Ён ішоў да вадаёма з раскладзенай вудай (5 кален) у пралётах апор 3-4 ПЛ 110 кВ Калядзічы–Шабаны, наблізіў вуду на недапушчальную адлегласць да правадоў Ф-С ПЛ і быў смяротна паражоны электрычным токам.

## Нельга лавіць рыбу ў ахоўных зонах

Для стварэння нармальных умоў эксплуатацыі электрычных сетак устанаўліваюцца ахоўныя зоны паветраных ліній. Яны знаходзяцца ўздоўж паветранай лініі электраперадачы ў выглядзе зямельнага ўчастка і паветранай прасторы, абмежаванай вертыкальнымі плоскасцямі па абодва бакі лініі ад крайніх правадоў пры не адхіленым іх становішчы на адлегласці:

- 15 метраў ад лініі напружаннем 35 кВ,
- 20 метраў для лініі напружаннем 110 кВ,
- 25 метраў для лініі напружаннем 220 кВ,
- 30 метраў для лініі напружаннем 330 кВ.

У ахоўных зонах паветраных ліній забараняецца лавіць рыбу, водных жывёл і здабываць расліны прыдоннымі прыладамі.

**Маладзечанскія электрычныя сеткі.**

ЗДАРЭННІ

# Ад лоўлі рыбы токам загінулі 11 вугроў

**МЯДЗЕЛ. Здарэнне адбылося ўначы 15 мая.**

У гэты дзень супрацоўнікі міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету разам з прадстаўнікамі Нацпарку "Нарачанскі" праводзілі прыродаахоўныя мерапрыемствы на возеры Нарач.

Каля гадзіны ночы ў раёне курортнага пасёлка Нарач (Купа) выявілі факт падключэння з лініі электраперадач праводу.

Каб адключыць провад ад сеткі і прадухіліць далейшую гібель рыбы, выклікалі брыгаду Мядзельскага РЭС і следча-аператыўную групу РАУС.

За месцам назіралі да шасці гадзін раніцы, але ніхто за здабычай не з'явіўся. Для незаконнай рыбалкі выкарыстоўваўся провад даўжынёй 180 метраў. Плошча паражэння складала каля 150 квадратных метраў.

Загінула 11 вугроў, паведаміў начальнік Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету **Валеры Кляноўскі**.

Навакольнаму асяроддзю прычыненая шкода на суму 44 мільёны рублёў.

Па гэтым факце ўзбуджаная крымінальная справа за здабычу рыбы, якая пацягнула прычыненне шкоды ў асабліва буйным памеры. Вядзецца следства.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ТАЛЕНТЫ

# Нашы на "Славянскім базары"

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета Беларусь на песенным конкурсе прадставіць маладзечанец Аляксандр Салаўёў. Наш зямляк – саліст аркестра Міхаіла Фінберга.**

Конкурс адбудзецца ад 11 па 17 ліпеня ў межах 22-га па ліку фестывалю ў Віцебску.

Пра падрыхтоўку да конкурсу, першую песню, напісанне дыплома і пра тое, як будучы артыст не хацеў іграць на баяне, – наша сённяшняя гаворка.



Фота забяспечана Аляксандрам САЛАЎЁВЫМ.

Маладзечанец Аляксандр Салаўёў паедзе ў Віцебск па чарговую перамогу. У 2006 годзе ён стаў уладальнікам Гран-пры фестывалю "Адна зямля".

## Дарафеева ўразілася маім выступленнем

**– Аляксандр, як прыйшла ідэя падаць заяўку на конкурс?**

– Я марыў аб гэтым конкурсе з дзяцінства. Праўда, з дзяцінства я яшчэ марыў спяваць з Грыбалёвай. Але спачатку пра конкурс. Вось у гэтым годзе проста спантанна прыйшла ідэя. Узрост, ведаеце, трохі цісне (Аляксандру 26 гадоў – Аўт.). За тыдзень сабраўся, наважыўся. І вось атрымалася.

**– Раскажыце падрабязней, як праходзіў адбор?**

– Было 10 удзельнікаў. Выбралі нас дваіх: мяне і Аляксандра Кавалёва. Спачатку ў журы былі сумневы ў выбары рэпертуару. Таму прыйшлося хуценька, амаль за тыдзень, замяніць усе тры песні.

**– А хто ўваходзіў у склад журы?**

– Пасля конкурсу да мяне падышла Ірына Дарафеева (я яе даўно ведаю, яна выкладае ў нас ва ўніверсітэце) і прызналася, што і не ведала, што я так магу спяваць. У журы былі Анатоль Ярмоленка, Эдуард Зарыцкі, Васіль Раінчык, Алег Елісеенкаў, старшынёй журы быў першы намеснік міністра культуры Уладзімір Карачэўскі.

**– Чаму не спадабаўся першапачатковы рэпертуар?**

– Я і сам не ведаю. Але паколькі журы так палічыла, мушу прыслухоўвацца.

**– Якія песні вы будзеце выконваць на конкурсе?**

– Я буду выконваць тры песні. Першая – "Без крылаў у неба", аўтарская кампазіцыя Алены Атрашкевіч. Другая песня "Маці" (з рэпертуару Валерыя Дайнэкі) – невыпадковы выбар. Гэта была мая першая песня, якую я выконваў. Да таго ж, мая маці вельмі блізкі для мяне чалавек. Таму спадзяюся, што змагу перадаць свае пачуцці ў гэтай песні. І тэма вельмі канальная. Трэцяя песня – "Ты мне вясною прыснілася". Класіка. Прыгожая песня, меладычная.

**– У чым цяпер заключаецца падрыхтоўка да конкурсу?**

– Кожны дзень ідзе рэпетыцыя з аркестрам. Шыюцца касцюмы. Магчыма, трохі змяню імідж.

**– Вы сказалі, што марылі аб конкурсе "Славянскі базар" з дзяцінства. Чаму менавіта пра гэты конкурс?**

– Таму што на "Славянскім базары" конкурс без падвоху. Ён вызначае выканаўцу, наколькі ён моцны вакальна, і толькі гэта. На конкурсе не трэба шоу. Барацьба галасоў і вобразаў. Вядома, хвалююся. Ларыса Доліна, якая сёлета будзе старшынёй журы, калісьці сказала, што калі артыст не хвалюецца, то з ім нешта не тое. Цяпер усё часцей успамінаю яе словы. Хвалююся, значыць, са мной усё ў парадку.

## Пісаць дыплом дапаможа жонка

**– Я ведаю, што вы вучыцеся на 5-м курсе Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры. Як ва ўніверсітэце паставіліся да таго, што падчас абароны дыплома вы будзеце на конкурсе?**

– З разуменнем. Ніхто не пярэчыў, не быў супраць майго ўдзелу. А калі адказаць сумленна, у мяне ўсе думкі аб конкурсе, а не пра вучобу. Здам як-небудзь.

**– А ва ўніверсітэце не абяцалі аўтаматам паставіць адзнакі, калі вы станеце пераможцам?**

– Не, халявы не будзе. Гэта факт. Але мая жонка абяцала дапамагчы з напісаннем дыплома.

**– Як жонка ставіцца да поспехаў мужа?**

– Вядома, яна радуецца за мяне, дапамагае ва ўсім. З дыпломам, напрыклад. Юля першая даведалася аб тым, што я еду на "Славянскі базар". Я адразу патэлефанаваў ёй. Крычала ў слухаўку, віншавала. Яна была з самага пачатку са мной, перажывала, падтрымлівала.

## Бацька хацеў, каб я іграў на баяне на вяселлях

**– З музыкай вы звязаны з дзяцінства?**

– Так, бо я выхоўваўся ў музычнай сям'і. Мой бацька калісьці іграў на гарадскіх танцавальных пляцоўках. Мне было шэсць гадоў, калі ён прывёў мяне ў музычную школу і запісаў у клас баяна. Не ведаю, для чаго. Можа, хацеў, каб я потым на вяселлях іграў. А мне гэты інструмент увогуле не падабаўся. А калі і суседзям надакучыла яго слухаць, я ўпёрся і запатрабаваў, каб мяне перавялі на іншы інструмент. Так што музычную адукацыю ў школе я паспяхова скончыў па класе кларнета. Потым было музычнае вучылішча імя Агінскага. Займаўся я ў цудоўнага, майго любімага выкладчыка **Пятра Пятровіча Туронка**. Сорамна перад ім, што цяпер не хапае часу ўбачыцца. Займаўся ў студыі "Спяваем разам".

**– А першая перамога ў якім конкурсе была? Ці запомнілася?**

– А як жа! Гэта быў школьны конкурс "Зорны капеж", песня "Рамашкі для Наташкі". Памятаю, нават у газеце напісалі: "А маленькі хлопчык Саша перамог з дарослай песняй".

**– Вы – саліст аркестра Міхаіла Фінберга. Раскажыце пра сваю работу ў гэтым калектыве.**

– У аркестр я трапіў у 2010 годзе, хаця ведаў пра гэты калектыў з дзяцінства. Быў такі тэлевізійны конкурс "Спяваем з аркестрам". Вось я ў гэтым конкурсе прымаў удзел тройчы. А праз некалькі гадоў адбылася лёсавызначальная сустрэча. Ужо пасля таго, як я атрымаў Гран-пры на фестывалі ў Маладзечне ў 2009 годзе.

**– Ці праўда, што Міхаіл Фінберг вельмі строгі?**

– А інакш і нельга. Гэта творчы працэс. Так што пра якія пернікі можа ісці гаворка? Мы на пугу не крыўдзімся, сябруем паміж сабой. Аркестр мяне многаму навучыў. Напрыклад, таму, што перад выступленнем трэба забыцца на ўсе свае хваробы. Голас павінен гучаць, а ўсе насмаркі, недамаганні – за кулісамі.

**– Ці было такое, што адмаўляліся спяваць песню, якую прапаноўваў для выканання Міхаіл Фінберг?**

– Не. Ну як вы сабе гэта ўяўляеце? Я ж не зорка, каб капрызы свае паказваць. Ведаю я такіх артыстаў, у якіх ад поспеху галаву зносіць. Цяжкая хвароба, хачу я вам сказаць. Так што я слухаю, што мне раяць людзі з досведам.

**– У машыне, у дарозе, напрыклад, слухаеце сябе?**

– Не, гэта нейк дзіўна, любавацца сабой. Калі і слухаю часам, толькі для таго, каб пакрытыкаваць: вось тут нешта не так, можна было б і лепей праспяваць.

**– А не было жадання ўсё кінуць?**

– Было. Асабліва тады, калі пачаў ламацца голас, было цяжка. Здавалася, што гэта не я, што раблю не тое. Жах! А вось цяпер я рэальна разумею, які гэта кайф, калі захапленне стала прафесіяй. Ці, калі хочаце, нават сэнсам жыцця.

**– Дзякуй за размову, поспехаў вам на конкурсе.**

– І ўсё? Мы ж толькі пачалі з вамі размаўляць!



**Наталля ТУР.**
E-mail: turenok_08@mail.ru

КАНЦЭРТ

# Амерыканскія музыканты: "Еўрабачанне"? Першы раз чуем!"

**МАЛАДЗЕЧНА. У пятніцу, 17 мая, у цэнтральнай бібліятэцы імя Максіма Багдановіча прайшоў канцэрт нью-ёркскага гурта "Project-trio" .**

Музыкі сваёй творчасцю надаюць новае гучанне класічнай музыцы, выконваючы яе з элементамі джаза, хіп-хопа і рока.

Мерапрыемства адбылося ў форме творчай сустрэчы. Пасля невялікага канцэрта, на якім гурт выканаў некалькі сваіх кампазіцый, музыкі самі распавялі пра сябе і пра сваю музыку.

У склад гурта ўваходзяць тры хлопцы, якіх, як яны самі адказалі, звязала любоў не толькі да музыкі, але і да Нью-Ёрка.

Грэг Паціла іграе на флейце, на якой можа іграць нават бітбокс, што і прадэманстраваў адразу прысутным.

Эрык Стывенсан іграе на віяланчэлі з трохгадовага ўзросту. Пітэр Сэймур – кантрабасіст.

– Музыка – гэта вельмі крутая рэч. Мы не разумеем адно аднаго, – кажа Эрык слухачам, маючы на ўвазе моўны бар'ер. – Але музыка якраз тая рэч, якая дапамагае нам паразумецца.

– Наш гурт існуе ўжо шэсць гадоў, – гаворыць Пітэр. – Кожны год у Нью-Ёрку праходзяць кастынгі сярод 500 калектываў за права несці амерыканскую культуру ў свет. У гэтым годзе пашанцавала нам. Так мы трапілі сюды. Спыніліся ў Мінску. Заўтра ў нас там вялікі канцэрт (размова адбывалася 17 мая). Да гэтага мы выступалі ў Расіі, а ў нядзелю едзем у Кіеў. Для нас выступаць у гэтай частцы свету – унікальная магчымасць.

**– Ці ведалі вы штосьці пра Беларусь да таго, як сюды прыехалі?**

– Ведалі, што яна знаходзіцца недзе побач з Польшчай, – адказвае Пітэр.

– А я бачыў вашых спартсменаў на Алімпіядзе, – кажа Эрык.

**– Якія гасцінцы павезяце з Беларусі?**

– А што нам лепей прывезці адсюль?

"Бульбу!" – падказваюць з залы.

– Дарэчы, прывязу ў Амерыку рэцэпт беларускіх дранікаў, – кажа Грэг.

– А я набыў сабе гадзіннік "Прамень", – паказвае абноўку Эрык.

– Я магу даць параду, – падключаецца да размовы Пітэр. – Калі вы будзеце ў Нью-Ёрку, набудзьце сабе майку з надпісам "I love NY". Гэта самы папулярны гасцінец з Нью-Ёрку. А ў вас мы бачылі саламяных лялек, зуброў і буслоў.

**– А якіх славянскіх кампазітараў вы ведаеце?**

– У нашым рэпертуары ёсць творы Чайкоўскага. А таксама мы пачалі рэпеціраваць "Купалінку". Мы ніколі не выконвалі яе, але можам паспрабаваць. І абавязкова на далейшых нашых канцэртах будзем гаварыць, што ўпершыню выканалі "Купалінку" ў Маладзечне.

**– Ці сочыце вы за конкурсам "Еўрабачанне"?**

– Што? Першы раз чуем! У Амерыцы шмат музычных конкурсаў, і калі прыдумаюць які-небудзь для кантрабаса, флейты і віяланчэлі, мы абавязкова возьмем у ім удзел.

У сваю чаргу музыканты цікавіліся ў прысутных, якая амерыканская музыка цяпер папулярная ў Беларусі, ці ведаюць беларусы гульню фрызбі і дзе ў Маладзечне можна пакаштаваць ежу ў збанках.

Сустрэча скончылася на тым, што музыканты падпісалі ўсім ахвотным карткі і абяцалі яшчэ раз наведаць наш горад.

Я ж пасля сустрэчы накіравалася шукаць выступленні "Project-trio" ў інтэрнэце. Як так, у інтэрнэце 71 мільён праглядаў(!), а я пра іх даведалася толькі сёння?

**Наталля ТУР.**



Фота Наталлі ТУР.

Амерыканскія музыканты пасля візіту ў Беларусь пачалі іграць "Купалінку".

# алми

## СЕТЬ МАГАЗИНОВ

**ГАСТРОНОМ УЛ. Ф. СКОРИНЫ, 28**
**УНИВЕРСАМ УЛ. ВЕЛИКИЙ ГОСТИНЕЦ, 136**

5700 — скидка 20% — Десерт творожный Даниссимо жир. 5.4-7.3% 130г РФ В ассортименте

только в универсаме — 3200 — скидка 20% — Мороженое шоколадное с арахисом Магия 65г РБ

1750 — скидка 20% — Продукт йогуртный Сочный-Молочный жир.1.2% 95г РФ В ассортименте

в гастрономе 9900 — 8500 в универсаме — скидка 30% — Яйцо куриное Д-1 АЛМИ 10шт РБ

65900 — скидка 15% — Кумпячок Европейский к/в 1кг РБ

38900 — скидка 15% — Колбаса вареная свиная Мортаделла в/с 1кг РБ

только в универсаме — 21900 — скидка 20% — Скумбрия с/м 1кг Исландия

36900 — скидка 25% — Карась подкопченный Двинский 1кг РБ

9900 — скидка 30% — Сайда обжаренная в томатном соусе 240г РБ

5900 — скидка 20% — Крабовые палочки Вичи Сочные 200г РФ

только в универсаме — 5900 — скидка 20% — Рыбные палочки Рыбок 250г РФ

4950 — скидка 20% — Кетчуп Щедро 300г Украина Томатный/Шашлычный/Нежный

2750 — скидка 20% — Горчица Щедро 120г Украина Острая Домашняя/Украинская

4400 — скидка 40% — Крупа пшено Домашний выбор 700г РФ

только в универсаме — 3600 — скидка 25% — Пюре картофельное б/п Махеев 40г РФ Жареный лук/Сухарики/Курица - зеленый лук

только в универсаме — 11300 — скидка 20% — Пюре для детей Сэмпер пастеризованное 125г Германия Цукини с картофелем/Черника

5900 — скидка 20% — Напиток газированный сокосодержащий Супер фрукты 1.5л РБ Апельсин/Грейпфрут

6500 — скидка 20% — Нектар неосветленный Лето 1л РБ Мультифрукт/Ананас

только в универсаме — 13900 — скидка 20% — Чай черный Липтон 20пак*1,8г РФ Цитрус/Лесные ягоды/Тропические фрукты Поставщик: ООО "Тибетрэй"

16500 — скидка 30% — Кофе растворимый гранулированный Жокей Фаворит 95г РФ

6950 — скидка 25% — Шоколад молочный Нестле Миндаль и вафли 95г РФ

14900 — скидка 20% — Конфеты Любимая Аленка 200г РБ Производитель: ОАО "Коммунарка"

только в универсаме — 6950 — скидка 25% — Венские вафли Акульчев со взбитыми сливками 150г РФ Экзотик/Чернослив/Вишня

3500 — скидка 20% — Печенье затяжное Крокет 170г РБ Производитель: СП ОАО "Спартак"

только в универсаме — 6700 — скидка 25% — Фисташки жареные соленые 30г РБ Козырные/Ассорти

только в универсаме — 5700 — скидка 25% — Арахис жареный соленый Козырный 100г РБ

только в универсаме — 15900 — скидка 20% — Формочки для льда силиконовые Китай В ассортименте

только в универсаме — 18900 — скидка 20% — Салатник металлический диаметр 16см Китай

только в универсаме — 85500 — скидка 20% — Кастрюля из нержавеющей стали с крышкой из жаропрочного стекла диматерт 19см Китай

только в универсаме — 19500 — скидка 25% — Дезодорант-антиперспирант Рексона 40мл РФ В ассортименте

1950 — скидка 20% — Палочки ватные Аура Бьюти 100шт РФ

только в универсаме — 8900 — скидка 20% — Детские влажные салфетки Эла Ромашка 72шт Турция

29900 — скидка 20% — Стиральный порошок Мара Автомат для цветного белья 2кг РБ Морская лагуна/Горный аромат

13500 — скидка 20% — Средство для мытья посуды Морнинг Фреш 450мл Польша В ассортименте

только в универсаме — 15900 — скидка 20% — Гель чистящий для сантехники Санфор 750мл РФ Зеленое яблоко/Лимон

8700 — скидка 20% — Туалетная бумага Зева 4шт РФ Ромашка/Малина

ООО «Торгпин», Лиц.50000/26251 выд. Мингорисполкомом от 23.05.2012 по 20.06.2022, УНП 190679197.


товар, отмеченный данным ценником, реализуется в гастрономе: г. Молодечно, ул. Ф. Скорины и в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136


товар, отмеченный данным ценником, реализуется только в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136

**ЦЕНЫ ДЕЙСТВИТЕЛЬНЫ С 22 МАЯ ПО 4 ИЮНЯ 2013 ГОДА**

Количество товара ограничено. Товар подлежит обязательной сертификации. Скидки по дисконтным картам на товары, участвующие в акции, не предоставляются.
Внешний вид товаров, представленных на фотографиях, может несколько отличаться от товаров, выставленных в торговом зале.
При расхождении цен, указанных в листовке и магазине, верными считать цены в магазине.

МЕРКАВАННЕ

# ... і іншыя хібы нашых кавярняў

**МАЛАДЗЕЧНА. Карэспандэнтка "Рэгіянальнай газеты" правяла агляд маладзечанскіх кавярняў.**

Доўгі час я моўчкі назірала за афіцыянтамі, абслугоўваннем, смакавала ежу, што там падаюць, і вось што хачу сказаць: дрэнна.

Дрэнна, што прыходзіш у кавярню на сустрэчу, паразмаўляць, адпачыць, падумаць, папіць кавы ці гарбаты, паесці ці перакусіць, а нічога не атрымліваецца. Не тое, каб зусім нічога, проста рэдка пасля гэтага адчуваеш задавальненне.

Але ісці больш няма куды, таму зноў даводзіцца наведваць кавярні, якія і не падабаюцца, і адчуваць раздражненне. Даводзіцца піць нясмачную гарбату, есці чэрствае пірожнае, халодную піцу, сушы, якія немагчыма ўзяць палачкамі, бо яны развальваюцца…

Але давайце ад пачатку.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**Гэта кавярня ў Вільні напалову бібліятэка. Яны не падзеленыя спецыяльна, каб людзі маглі пачытаць кнігу з кубачкам кавы. Да таго ж, можна размясціцца проста на падаконніку.**

## Антураж

Уладальнікі кавярняў спрабуюць стварыць нейкую атмасферу, але атрымліваецца вельмі няўдала. Возьмем, напрыклад, месца, дзе прыглушанае святло, няма вокнаў, драўляная мэбля...

Здаецца, тут чалавек павінны адчуваць сябе даволі ўтульна, спакойна і адрэзана ад свету. Але чамусьці у гэтай кавярні адчыняюць дзверы так, што упускаюць дзённае святло і бурацць усю атмасферу. А ў дадатак замест якой-небудзь інструментальнай ці проста спакойнай музыкі ўключаюць хіты 80-х, якія зусім не пасуюць да спакойнай размовы ці роздуму.

Але яшчэ больш абурае наступнае. Уладальнік кавярні патурбаваўся пра сваіх наведнікаў і стварыў некалькі залаў розных стыляў. Добра. Але чаму, калі я прыходжу туды і кажу, што хачу прайсці ў залу, якая мне больш падабаецца, чую: "Выбачайце, а ў нас у гэтай зале не працуе афіцыянт. Праходзьце, калі ласка, у іншую". Выбачайце, калі вы пазіцыянуеце сябе як кавярня, дзе можна выбраць залу па густу, то падтрымлівайце марку.

А некалі таксама ў гэтай кавярні сутыкнулася з наступным. Ужо вечарэла, таму большасць людзей была ў куртках, хай і лёгкіх. А на ўваходзе ахоўнік папярэджваў: "У нас не працуе гардэроб". Я ўсё разумею, але ж я прыйшла не ў чыгуначную забягалаўку, дзе можна пакласці рэчы на калені, сядзець і піць каву 3 у 1.

Цяпер стала модным вешаць у кавярнях плазменны тэлевізар. Часам здаецца, што для таго, каб не атрымалася ні пагаварыць, ні паесці. Неяк прыйшла ў кавярню паабедаць, і нехта дадумаўся ўключыць фільм, прычым жудасны, дзе над людзьмі праводзяць катаванні. Я тады была разам з калегай, і мне пашанцавала сядзець да экрана спіной. Але ў калегі апетыт упаў на нуль, і калі яна папрасіла спыніць гэты жах, давялося чакаць яшчэ 15 хвілін.

## Абслугоўванне

**Паважаныя афіцыянты**, калі вы вырашаеце паразмаўляць па тэлефоне, не рабіце гэта на вачах у наведніка.

Гэты выпадак адбыўся са мной, калі я зазірнула ў кавярню, дзе абслугоўваць сябе трэба самому, каб выпіць кавы. Адстаяла чаргу, заказала, чакаю. І вось дзяўчына пачынае гатаваць мне каву, і ў яе звоніць тэлефон. Без роздуму яна адказвае на званок і адыходзіць, каб паразмаўляць. Я ж стаю і чакаю. А здараецца, што трэба стаяць і чакаць, пакуль адна афіцыянтка паразмаўляе з другой.

**Паважаныя прыбіральшчыцы**, будзьце пільныя.

Заходжу ў кавярню, а там ля самай барнай стойкі нешта разліта. Жаданне адразу развярнуцца мяне перамагло.

**Паважаныя касіркі**, гэта вы абслугоўваеце кліента, а не кліент вас.

Вельмі непрыемна, калі ты даеш грошы, кажаш "калі ласка", "дзякуй", а табе ў адказ толькі панурае маўчанне і нядбайна кінутая рэшта.

Хочацца звярнуцца і да тых, хто мые посуд. Проста агідна, калі на талерцы нешта засохла і ты бачыш, што гэта не тваё.

## Прыбіральні

Выдзяляю асобным пунктам, таму што гэта найярчэйшы прыклад непавагі да наведніка.

Крыўдна, калі ўладальнікі кавярняў не могуць падключыць у прыбіральні гарачую ваду. Калі няма люстэрка, калі няма ні мыла, ні сушылкі. Калі вакол бруд і невыносны пах. Думаеце, кліент пабудзе там усяго некалькі хвілін і таму можна не замарочвацца?

Дык вось ад гэтых нязначных некалькіх хвілін псуецца ўсё ўражанне ад месца. І калі потым запытаюцца: "Ну як там", то кліент нашмат хутчэй прыгадае дрэнную прыбіральню, чым добрую ўсмешку афіцыянта.

## Дадатак

Звяртаюся да ўладальнікаў кавярняў. Пра нейкую адзіную форму для афіцыянтаў гаварыць не даводзіцца. Хаця гэта вельмі важны паказчык узроўню. Калі немагчыма забяспечыць іх годным адзеннем, то хаця б прасачыце за тым, каб у іх не звісалі валасы ды жывот быў закрыты.

Ну і апошняе. Чаявыя і рэшта. Афіцыянты, калі я набыла каву за 22 тысячы рублёў, а паклала 25 тысяч, то гэта не значыць, што я пакінула вам тры тысячы чаявых. А раптам гэта мае апошнія грошы, і яны трэба, каб даехаць на аўтобусе дадому? Не забірайце рэшту сабе. Кліент сам вырашыць, колькі пакінуць.

Ну і самае апошняе. Вельмі хацелася б, каб афіцыянты паглядалі на людзей і не даводзілася крычаць, каб цябе пачулі.



**Настасся РОЎДА**
E-mail: nastya.rovdo@gmail.com
Skype: nastya_rovdo

### Замежны досвед: парады

1. Пры любых абставінах персанал павінны ветліва ставіцца да кліента.
2. У кавярнях трэба больш пільную ўвагу надаваць чысціні.
3. Памятаць пра тое, што прыбіральні – гэта паказчык узроўню кавярні.
4. Варта працаваць над стварэннем сапраўднай атмасферы.
5. Не думайце, што калі кліент заказаў кубачак кавы, то ён не можа правесці ў кавярні некалькі гадзін.

НАВУЧАННЕ

# Слімакі "а-ля каледж"

**ВІЛЕЙКА. У сераду, 15 мая, у прафесійна-тэхнічным каледжы адбыўся майстар-клас па прыгатаванні слімакоў.**

Вінаградны слімак ў сучаснага гарадскога жыхара хутчэй асацыюецца з акварыумам, чым з кулінарыяй. Аднак у многіх краінах Еўропы і Азіі слімакі – гэта звыклая страва ў меню рэстаранаў.

– Упершыню пакаштаваць гэты далікатэс мне давялося ў Парыжы, – распавядае дырэктар каледжа і адначасова ініцыятар такога незвычайнага майстар-класа **Ігар Кіцікаў**. – Там слімакоў падаюць ва ўсіх рэстаранах у ракавінах па 1 еўра за штуку. І пры гэтым ад ахвотных з'есці такую страву адбою няма. Многія для гэтага прыязджаюць за тысячы кіламетраў. Дык чаму ж мы не можам гэтага зрабіць?

Калі ў вас ёсць сумненні, ці варта ўвогуле есці слімакоў, то, канешне, кожны вольны рабіць свой выбар. Хтосьці ставіцца да гэтых мілых стварэнняў як да хатніх жывёл, а для кагосьці гэта каштоўны бялковы прадукт з дзіўным смакам і мноствам карысных уласцівасцяў. Мяса слімакоў багата магніем, фосфарам, каліем, кальцыем, жалезам, цынкам, меддзю, вітамінамі А, Е і групы В.

Гатуюць слімакоў, сабраных у дзікай прыродзе, двума спосабамі. Можна запячы ці зварыць на агні, а можна патрацiць некалькі гадзін і атрымаць сапраўдны твор кулінарнага мастацтва – эскарга. Менавіта гэты класічны рэцэпт прыгатавання слімакоў апрабавалі ў вілейскім каледжы.

Шэф-поварам быў дырэктар каледжа Ігар Кіцікаў, ну а дапамагалі яму навучэнцы, якія вучацца на повараў: **Арцём Гаўрыкаў**, **Максім Фарыно**, **Мікалай Саўчыц** і **Мікіта Лумбіеў**.

### Рэцэпт слімакоў

Слімакоў бланшыруем дзве хвіліны, дастаём з ракавін, выдаляем вантробы, старанна прамываем і адварваем ў вадзе з цыбуляй і зяленівам прыкладна 40 хвілін. Затым рыхтуем араматызаванае масла: дробна пасечаныя часнок і пятрушку змешваем з размякчаным маслам, дадаём лімонны сок, соль і перац. У пустыя вывараныя і высушаныя ракавіны кладзём па кавалачку мяса слімакоў, даверху запаўняем маслам, запякаем 20 хвілін і атрымліваем асалоду ад смаку!

– У нашым каледжы лёгка прыжываюцца многія наватарскія ідэі, – кажа Ігар Кіцікаў. – Некалі было незвычайным правядзенне конкурсаў "Дзень судака", "Дранік-шоу", адкрыццё цырульні "Лада", кафэ "Пары", уласнага СТА. Цяпер дзякуючы гэтым мерапрыемствам аб нашым каледжы ведаюць не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі. Магчыма, хутка да нас у каледж будуць прыязджаць, каб пакаштаваць слімакоў па-французску "а-ля каледж", бо нашы слімакі па смакавых якасцях ні ў чым не саступаюць французскім.

**Святлана МАЦУКЕВІЧ, педагог-арганізатар каледжа.**

ТУРЫЗМ

# Лепшымі турыстамі сталі нарачанцы




Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

На старце спаборніцтваў па спартыўным арыентаванні.

**МЯДЗЕЛ. На турыстычнай стаянцы "Белае возера" 16 і 17 мая прайшлі раённыя злёты юных турыстаў і выратавальнікаў-пажарных сярод школьнікаў Мядзельскага раёна.**

У праграме злёту юных турыстаў былі спаборніцтвы па спартыўным арыентаванні, тэхніцы турызму, конкурсы газет, быту, турысцкай і патрыятычнай песні. У злёце юных турыстаў сюрпрызаў не адбылося: перамаглі вучні Нарацкай сярэдняй школы №1, якія выйграюць падобныя спаборніцтвы апошнія гады. На другім месцы – прадстаўнікі гімназіі-інтэрната Мядзела, на трэцім – Будслаўская СШ.

У злёце юных выратавальнікаў-пажарных лепшымі сталі зноў жа вучні Нарацкай СШ №1, на другім і трэцім месцах – дзеці са Слабадской школы і гімназіі-інтэрната Мядзела.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

## Клуб "Маладзечна" згуляе 24 матчы ў сезоне

**МАЛАДЗЕЧНА. Стаў вядомым расклад гульняў камандаў Другой лігі.**

Усяго ў сезоне 26 тураў. Маладзечанцы цягам сёлетняга сезона правядуць 24 гульні, дванаццаць з якіх – на дамашнім стадыёне.

Завершыцца сезон 10 лістапада.

### Каляндар матчаў клуба "Маладзечна-2013" на сезон

| № тура | Дата матча | Сапернік |
|---|---|---|
| **1.** | **4 мая** | **Гомельчыгунтранс** |
| 2. | 12 мая | АЛФ-2007 |
| 3. | 19 мая | – |
| **4.** | **24 мая** | **Партызан-МТЗ** |
| 5. | 2 чэрвеня | Жлобін |
| **6.** | **8 чэрвеня** | **Баранавічы** |
| 7. | 16 чэрвеня | Зорка-БДУ |
| **8.** | **23 чэрвеня** | **Орша** |
| 9. | 30 чэрвеня | Кобрын |
| **10.** | **7 ліпеня** | **Віцебск-2** |
| 11. | 14 ліпеня | Асіповічы |
| **12.** | **21 ліпеня** | **Лівадзія (Дзяржынск)** |
| 13. | 4 жніўня | Нёман (Масты) |
| 14. | 18 жніўня | Гомельчыгунтранс |
| **15.** | **25 жніўня** | **АЛФ-2007** |
| 16. | 1 верасня | – |
| 17. | 8 верасня | Партызан-МТЗ |
| **18.** | **14 верасня** | **Жлобін** |
| 19. | 22 верасня | Баранавічы |
| **20.** | **29 верасня** | **Зорка-БДУ** |
| 21. | 6 кастрычніка | Орша |
| **22.** | **13 кастрычніка** | **Кобрын** |
| 23. | 19 кастрычніка | Віцебск-2 |
| **24.** | **27 кастрычніка** | **Асіповічы** |
| 25. | 2 лістапада | Лівадзія (Дзяржынск) |
| **26.** | **10 лістапада** | **Нёман (Масты)** |

Тлустым выдзеленыя дамашнія матчы

НАВІНЫ

## Віцебск-Смаргонь – 3:2



Фота sfc-slutsk.by

Аўтар другога гола Сяргей Крот.

**СМАРГОНЬ.** Пяты тур Першай футбольнай лігі прынёс паражэнне клубу са Смаргоні. Гульня на віцебскім стадыёне скончылася з лікам 3:2.

Сапернікі вырваліся наперад у самым пачатку матча: за першыя пяць хвілін мяч пабываў у варотах "Смаргоні" ўжо двойчы.

Змяніць лік на табло смаргонцы змаглі ў другім тайме. Забітыя мячы на свой рахунак запісалі **Вячаслаў Замара** і **Сяргей Крот**. Але гэтага не хапіла для таго, каб выраўняць лік.

Пасля пяці гульняў каманда мае чатыры ачкі і займае адзінаццаты радок у турнірнай табліцы.

Наступную гульню "Смаргонь" правядзе ў пятніцу, 24 мая, на дамашнім стадыёне.

## Самыя спартыўныя сем'і

**МЯДЗЕЛ.** 18 мая ў фізкультурна-аздараўленчым цэнтры "Мядзел" адбылося спартыўнае свята "Тата, мама, я – спартыўная сям'я".

Удзельнічалі дзве каманды: у складзе адной – вучні Мядзельскай СШ №1 і іх бацькі, другой – прадстаўнікі гімназіі-інтэрната і СШ №2 райцэнтра.

Было дзесяць конкурсаў, паведаміла вядучы спецыяліст аддзела адукацыі **Ніна Самко**. У выніку лепшыя сем'і вызначылі ў розных намінацыях.

## Вызначылі лепшых у лёгкай атлетыцы

**ВІЛЕЙКА.** 18 мая на гарадскім стадыёне і стадыёне сярэдняй школы №1 адбыліся спаборніцтвы па лёгкай атлетыцы. Прысвячаліся яны Дню работнікаў фізічнай культуры і спорту.

У спаборніцтвах прынялі ўдзел 170 вучняў з устаноў адукацыі Вілейскага раёна, паведаміла метадыст раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Людміла Арлоўская**.

Першыя месцы ў сваіх падгрупах завявалі вучні вілейскай гімназіі №2, Чурлёнскага і Рабунскага дзіцячага сада-сярэдняй школы і Іжанскага дзіцячага сада-базавай школы.

## Эстафета прайшла на вуліцах горада

**МАЛАДЗЕЧНА.** Лёгкаатлетычныя спаборніцтвы сярод вучняў школ і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў прайшлі ў чацвер, 16 мая.

Падчас эстафеты ўдзельнікі бегалі па маршрутах у раёне парку Перамогі.

Лепшымі бегунамі сярод школьнікаў сталі вучні маладзечанскай школы №14. Другое месца засталося за школай №5, трэцяе – камандай школы №9.

Вызначылі лепшых і сярод устаноў сярэдняй спецыяльнай адукацыі. Першае месца занялі навучэнцы політэхнічнага каледжа, другое – спартсмены з прафесійна-політэхнічнага каледжа, трэцяе – навучэнцы гандлёва-эканамічнага каледжа.

## Маладзечанцы абыгралі віляйчан

**ВІЛЕЙКА.** 18 мая на гарадскім стадыёне ў Вілейцы прайшла гульня першага тура чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе.

Сустракаліся каманды "Вілія" (Вілейка) і "Маладзечна-ДЮСШ-4". Матч завяршыўся з лікам 2:0 на карысць маладзечанцаў.

Першы гол маладзечанцы забілі са штрафнога бліжэй да заканчэння першага тайма, другі – на апошняй хвіліне матча.

– Госці мелі гульнявую і тэрытарыяльную перавагі, – расказаў старшыня федэрацыі футбола Вілейскага раёна **Ігар Шабан**. – З-за таго, што субота была працоўная, віляйчане гулялі ў аслабленым складзе. Напрыклад, асноўны варатар з'явіўся на полі толькі ў другім тайме, а ў першым вароты абараняў палявы гулец.

## Змагаюцца за Кубак раёна

**ВІЛЕЙКА.** Чарговыя гульні Кубка Вілейскага раёна па футболе адбыліся 16 і 17 мая. Яны праходзяць на стадыёне дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага каледжа.

У сераду каманда "Першы Беларускі" сыграла ўнічыю 0:0 з "Фламетрам" і прайграла "Клубу аматараў футбола" 0:1.

У спаборніцтвах бярэ ўдзел і каманда з Маладзечна – "Крыніца". У чацвер яна сустракалася з "Шылавічамі". Маладзечанцы былі мацнейшыя: лік сустрэчы 5:3 на іх карысць.

## Лепшыя коннікі вызначыліся ў Палачанах

**МАЛАДЗЕЧНА.** Першынство ДЮСШ па конным спорце прайшло ў Палачанах 17-18 мая. Спартсмены змагаліся ў пераадоленні перашкодаў.

У першым конкурсе ўдзельнікі бралі бар'ер вышынёй 100 сантыметраў. Першай стала **Паліна Міхайлоўская**, другой – **Вікторыя Палюшкевіч**, трэцім – **Уладзіслаў Магер**.

Пры ўзяцці вышэйшых бар'ераў лепшай стала **Веста Высоцкая**. Другое месца заняла **Дар'я Яршэвіч**, трэцяе – **Вікторыя Палюшкевіч**.

**Аддзел інфармацыі.**

ПРАФЕСІЯ

# Бухгалтар і клоўн у адной асобе

**МАЛАДЗЕЧНА. Днём Надзея Макар працуе бухгалтарам, а ўвечары надзявае паралонавы нос, зялёны парык і ідзе весяліць дзетак на дзень нараджэння.**

Аб тым, як яна сумяшчае дзве працы, спадарыня Надзея расказала карэспандэнту "РГ".

**– Як вы сталі клоўнам?**

– Мы сядзелі з сяброўкай і пілі чай. Раптам нам прыйшла ідэя павіншаваць сваякоў з Новым годам. Знайшлі касцюмы скамарохаў, прыдумалі конкурсы і закупілі шарыкаў. Гэта быў першы крок, каб стаць клоўнам.

А потым я вырашыла зрабіць сюрпрыз сваёй маме на юбілей. Прыдумалі з сяброўкай сцэнарый, падрыхтавалі падборку песень, пашылі касцюмы.

Усім спадабалася. А пасля юбілею адна жанчына прапанавала нам выступіць на дні нараджэння сваіх дзяцей. Так мы і сталі клоўнамі.

**– Як вы сумяшчаеце дзве працы: клоўна і бухгалтара?**

– Я працую ў Мінску. Бывае, прыязджаю а шостай гадзіне вечара дадому, а на 19.00 ужо на дзіцячы дзень нараджэння трэба ісці. І за гадзіну неабходна зрабіць тысячу спраў – пераапрануцца ў клоўнскі ўбор, нанесці на твар грым, надзьмуць больш за 100 шарыкаў.

Але ў жыцці, каб быць сапраўдным клоўнам, трэба валодаць прафесіяналізмам. А таксама валодаць асаблівым станам душы, быць гатовым у любы час пераўвасобіцца ў неверагодна пазітыўнага чалавека і дарыць людзям радасць.

Калі вы не адчуваеце сябе такім чалавекам, то ніколі не зможаце стаць клоўнам.

**– Ці складана наносіць грым?**

– Не. Раней, калі я толькі рабіла першыя крокі ў гэтым накірунку, займала шмат часу. А цяпер – 10 хвілін і гатова!

Я куплю спецыяльны тэатральны грым. Ён прадаецца ў Мінску. Але каштуе вельмі дорага.

### Я ў якасці падарунка ўсіх сваіх сваякоў правяла на пенсію

**– Што падабаецца дзецям больш за ўсё?**

– Ім падабаюцца шарыкі, конкурсы з шарыкамі. Я з іх скручваю розных сабачак, кветачкі.

Аднойчы ехала ў аўтобусе і нейкі хлопчык так плакаў, так плакаў. У руках ён трымаў сабачку, зробленага з шарыкаў, якія раскруціліся. Мама ўсё ніяк не магла яго супакоіць, а сабачку не атрымлівалася скруціць. Я кажу: "Давайце мне шарык, я з яго зноў зраблю сабачку". Скруціла гэты шарык – і дзіця супакоілася, і мама перастала хвалявацца.

**– Ведаю, што даводзілася выступаць і ў дзіцячых дамах. Адчувалася розніца?**

– Вядома, у дзіцячым доме складаней. Дзеці розныя. Адныя вельмі сціплыя, іншыя, наадварот, занадта энергічныя. Калі прыходжу на дзень нараджэння да дзіцяці, у якога ёсць і мама, і тата, то з імі прасцей. Яны больш ідуць на кантакт, смялейшыя. Тым больш, што ўвага ідзе толькі на яго аднаго.

А ў дзіцячых дамах па 20 дзяцей. І ўсе на цябе глядзяць і хочуць, каб ім падарылі кавалачак любові і цяпла. Калі я глядзела ў іх вочкі, я ледзь не плакала, бо не разумела, як можна кідаць такіх маленечкіх... І быў такі момант, калі трэба ўжо было сыходзіць ад іх, а дзеці ўчапіліся за мяне, не хацелі адпускаць. І кожны думаў, што я яго ўласны клоўн...

**– А ці выступаеце для сваіх блізкіх?**

– Так! Я ў якасці падарунка амаль усіх сваіх родных і блізкіх правяла на пенсію.

**– А без грыму вы можацеЫ паўтарыць свае выступленні?**

– Я ўвогуле пазітыўны чалавек! Мне што з грымам, што без яго. Яшчэ калі вучылася ў каледжы, не было ніводнага конкурсу, каб я ў ім не ўдзельнічала.

### "Тры гады не гляджу тэлевізар..."

**– Шмат даводзіцца працаваць?**

– Я ўжо тры гады не гляджу тэлевізар, бо няма часу. Працуючы ў Мінску, на сябе часу немагчыма знайсці.

Цягам трох гадоў я ў якасці валанцёра дапамагаю весці дакументацыю ў Чырвоным Крыжы.

У мяне кожныя выхадныя – гэта нейкае мерапрыемства. Клоўн працуе не толькі ў Маладзечне. Была чатыры разы ў Смаргоні, у Заскавічах. Бывае, і тры заказы за дзень трэба адпрацаваць. Звычайна мы выступаем на дзіцячых днях нараджэння. Але і дарослыя на юбілеі запрашаюць.

Некаторыя людзі лічаць, што клоўн – гэта дзіцячы садок! Але гэта не так. Вельмі цікава назіраць, як дурэюць дарослыя мужчыны і жанчыны.


Фота забяспечана Надзеяй МАКАР.

**Ці можна пазнаць у гэтым клоўне бухгалтара Надзею Макар?**

У іх ад нашых конкурсаў застаюцца добрыя ўспаміны.

**– Раскажыце пра самы незвычайны выпадак у жыцці клоўна.**

– Калі была анамальная мяцеліца, нас запрасілі на дзіцячы дзень нараджэння на Нарач.

Хоць і было штармавое папярэджанне, але мы вырашылі ўсё ж такі паехаць. А шостай гадзіне вечара па нас прыехала машына – праз гадзіну мы павінны былі ўжо быць на Нарачы. З-за мяцеліцы даехалі толькі да Вілейкі. Прастаялі на дарозе тры гадзіны. На мне быў толькі тоненькі касцюмчык клоўна і ўсё. Ногі змерзлі да такой ступені, што я не адчувала пальцаў. Але, нягледзячы на ўсе перашкоды, нам было весела.

На дапамогу прыйшла вілейская міліцыя. Міліцыянеры дацягнулі нас да бліжэйшай вёскі. Там забрала іншая машына, якая ўжо адвезла ў Маладзечна, бо на дзіцячае свята мы спазніліся.

Але ўсе шарыкі, што былі падрыхтаваныя для конкурсаў, мы перадалі імянінніку.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | | | 3 | 5 |
| | | | 9 | | | 2 | | |
| | 7 | | | | 3 | 1 | 9 | |
| 2 | | | | | | 9 | 4 | |
| | 5 | | | | | | 8 | |
| | 9 | 6 | | | | | | 7 |
| | 2 | 8 | 6 | | | | 1 | |
| | | 7 | | | 1 | | | |
| 3 | 6 | | | | 7 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9сустракалася толькі адзін раз.

РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыйны камедыйны блокбастар **"Сямейка Крудс"** (ЗША, 2013, без узроставых абмежаванняў)

24 мая – у 16.00, 21.00
25 мая – у 14.00, 19.00
26 мая – у 16.00, 21.00
27 мая – у 19.00
28 мая – у 21.00
29 мая – у 16.00, 21.00
30 мая – у 17.00, 19.00, 21.00
Цана білета: 22 000 - 25 000 рублёў

Прыгодніцкі экшн **"Жалезны чалавек 3"** 3D (ЗША, Кітай, 2013, 2 серыі, дзецям да 14 гадоў прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)

24 мая – у 18.00
25 мая – у 16.00, 21.00
26 мая – у 13.00, 18.00
27 мая – у 21.00
28 мая – у 18.00
29 мая – у 18.00
Цана білета: 35 000 - 40 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыйныя прыгоды **"Арыэці з краіны ліліпутаў"** (Японія, 2010, без узроставых абмежаванняў)

25, 26 мая – у 14.30, 16.30
Цана білета: 15 000 рублёў

Меладрама **"Паралельныя светы"** (Канада, Францыя, 2011, фэнтэзі, для гледачоў, якім за 16 гадоў)

24 мая – у 19.30, 21.30
25 мая – у 19.30, 21.30
26 мая – у 19.30, 21.30
27 мая – у 21.30
Цана білета: 25 000 рублёў

Меладрама **"Маладыя сэрцы"** (ЗША, 2012, для гледачоў, якім за 16 гадоў)

28 мая – у 19.30, 21.30
29 мая – у 19.30, 21.30
30 мая – у 19.30, 21.30
Цана білета: 25 000 рублёў

Тэл. для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. **"Падобны да Стынга"** (аптымістычная трагедыя ў 2-х дзеях) *Ірына Пісьменная*
28 мая, аўторак, у 19.00

**"На другі дзень Сёмухі"** (сцэнічны жарт у 3-х дзеях на драматургічнай аснове "Прымакоў" Янкі Купалы) *Юры Вута*
29 мая, серада, у 19.00

ПРЭМ'ЕРА. **"Сямейны партрэт з пабочнай асобай"** (камедыя ў 2-х дзеях) *Сцяпан Лабазёраў*
30 мая, чацвер, у 19.00

Тэатра мае права на замену спектакляў
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл.: **76-17-32, 75-24-17.** E-mail: **modt@tyt.by.**

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

*ЗАКРЫЦЦЁ ТЭАТРАЛЬНАГА СЕЗОНА*

**"Цалёвачка"** (музычная казка), ідзе на рускай мове. Ю.Шчуцкі.
26 мая – у 12.00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

ГАРАСКОП
**(24-30 МАЯ)**


**Авен.** Вы апынняцеся ў цэнтры падзей і будзеце практычна ўсюды запатрабаваныя як душа кампаніі і неардынарная асоба.


**Блізняты.** Растаўце ўсе кропкі над "і" – асабліва ў адносінах з каханым чалавекам. Зоркі заклікаюць да далікатнасці ў высвятленні адносінаў.


**Цялец.** Важнае значэнне цяпер набываюць сувязі і ўменне імі карыстацца. Вы можаце выйсці з любой сітуацыі, абзаводзячыся ўсё новымі і новымі знаёмствамі. Сувязі могуць усё!!!


**Рак.** Вас могуць у літаральным сэнсе расцягваць па частках, настолькі вы зараз неабходныя на рабоце, дома, яшчэ ў парытройцы месцаў. Прыемна, канешне, адчуваць сябе незаменным… Аднак часу ў сутках не прыбавіцца.


**Леў.** Паклічце на дапамогу сваё пачуццё гумару. Яно спатрэбіцца вам, калі прыйдзецца вырашаць няпростыя псіхалагічныя задачкі.


**Дзева.** Сканцэнтруйцеся на сямейных пытаннях: цяпер дом для вас – надзейнае ўкрыццё ад усіх нягод. Цяпер ваш арганізм здольны засвойваць вялікую колькасць касмічнай энергіі. Карыстайцеся сітуацыяй.


**Шалі.** Будзьце гатовыя прымаць сур'ёзныя рашэнні. Яны дапамогуць пазбегнуць вельмі непрыемнай канфліктнай сітуацыі.


**Скарпіён.** Не сварыцеся з роднымі – вы толькі згубіце час і сілы. А яшчэ не варта безадказна адносіцца да свайго здароўя, ды толькі нельга ставіцца і заложнікам хваробы.


**Стралец.** Давядзецца змагацца за ўмацаванне аўтарытэту. Неабходна будзе даказваць, што вы здольныя пераадольваць цяжкасці. У кожнай сітуацыі цяпер разлічвайце толькі на сябе.


**Казярог.** Адсуньце трывожнасць у бок, адкіньце страхі – і ўбачыце рэальнае выйсце са становішча.


**Вадалей.** На працы назапасіліся праблемы, якія іншым не пад сілу, а вы з імі лёгка справіцеся. Не пашкадуйце на іх часу – поспех значна ўмацуе вашы пазіцыі.


**Рыбы.** Пачыналі маюць добры шанс для ажыццяўлення. Дарэчы, энергіі вам хопіць – не хапіць можа толькі часу. І грошай, падумалі вы, грошы будуць зарабіцца, перыяд безграшоўя вам не пагражае.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

**Камент-эксперт**

erh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобныя артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +14 / +18 | | +16 / +16 | | +12 / +19 | | +14 / +20 | |
| | 728 | ← 7 | 731 | → 9 | 739 | ↗ 2 | 735 | ↖ 7 |
| Вільня | +12 / +22 | | +15 / +20 | | +10 / +21 | | +13 / +24 | |
| | 738 | ↙ 7 | 746 | ↑ 2 | 744 | ↗ 3 | 745 | ↖ 8 |

| | | |
|---|---|---|
| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 4.52
Захад 21.27
Даўжыня дня 16.35

Усход 21.52
Захад 5.08
Квадра 3

**25 мая, субота**

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +17 / +20 | 734 | ↗ 5 |
| Гродна | +16 / +19 | 739 | → 8 |
| Мінск | +17 / +18 | 731 | → 9 |
| Магілёў | +16 / +19 | 736 | ↗ 7 |
| Гомель | +18 / +20 | 743 | → 7 |
| Брэст | +11 / +19 | 747 | → 8 |

## ПРЫКМЕТЫ

- На Макея (24 мая) туман і ўдзень мокра – усё лета будзе мокрае. Калі суха, то і лета будзе сухое.
- Каб на агурках не было пустацвету, трэба садзіць іх увечары.
- 28 мая – Пахом. "Садзі агуркі на Пахом – будзеш насіць мяхом".

## Чытайце праз тыдзень:

- **Гісторыю фестывалю "Адна зямля", яго гімн, імёны ўсіх уладальнікаў Гран-пры чытайце ў наступным нумары "РГ".**

## КУЛЬТУРА

## Надрукавалі кнігу "Падзеі паўстання 1863 года на Вілейшчыне"

**ВІЛЕЙКА**. Кнігу накладам 100 асобнікаў надрукавала выдавецтва "Кнігазбор".

Яе аўтары – сябра вілейскай суполкі Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры **Зміцер Хаценчык** і старшыня **Дзяніс Канецкі.** Кніга складаецца з наступных частак: прадмова, напярэдадні паўстання (1861 – 1862 гады), у Дзвіноскіх лясах: пачатак партызанкі, бітва пад Уладыкамі, бой каля Каралеўцаў, вынікі і наступствы паўстання.

Асобная частка кнігі распавядае пра прадстаўнікоў роду Козелаў-Паклеўскіх, якія бралі ўдзел у паўстанні, а таксама радавод Козелаў-Паклеўскіх. У кнізе таксама пералічылі помнікі Вілейшчыны, звязаныя з паўстаннем.

**Аддзел інфармацыі.**

## АДЗІН ДЗЕНЬ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА

Фота зафіксаваў Сяргей БАРТОШ.

**Раніцай 17 мая ў Маладзечне 18 чалавек здавалі на правы катэгорый А (на кіраванне матацыклам) і АБ (на кіраванне скутарам і мапедам). Сярод іх была і адна дзяўчына, якая патрапіла ў дзясятку тых, хто здаў. Правяраліся веданне правілаў дарожнага руху і фігурнае манеўраванне.**



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МЯДЗЕЛЕ

## "Як вы ацэньваеце мясцовыя кавярні?"

**Наталля Клімовіч, настаўніца:**

– Станоўча і хачу, каб іх працавала больш. Каб можна было арганізаваць дастойны сямейны адпачынак і проста адпачыць з сябрамі.

Не магу сказаць, што ў Мядзеле зусім няма кавярняў, але хочацца, каб было больш канкурэнцыі.

**Юры Яравіцын, ваенны пенсіянер:**

– Пра ўсе не скажу. А піцэрыя "Хіт" у Мядзеле выдатная. Там і якасць піцы, і абслугоўванне на ўзроўні. Не горш, чым у мінскіх і расійскіх піцэрыях.

**Алена Какадзей, аператар ЭВМ:**

– Хочацца, каб у Мядзеле было больш кавярняў, бо выйсці асабліва няма куды. Радуе, што піцэрыя нядаўна адкрылася, дзе можна добра з дзіцем правесці час.

**Ксюша Мінькова, вучаніца:**

– Я была ў "Залатой рыбцы", піцэрыі. Там добра, смачная піца. Хацелася б, каб у Мядзеле было больш кавярняў і нават "Макдональдс".

**Святлана Чарняўская, дырэктар музея:**

– Лічу, што ў Мядзеле мала кавярняў. У нас гэты накірунак слаба развіваецца, хіба што нядаўна піцэрыя адкрылася. Асабліва гэта праблема актуальная ў летні час, калі прыязджаюць адпачывальнікі. Добра было б, каб была кавярня для людзей сярэдняга ўзросту, каб там было ўтульна, нядорага і дастойна.

**Валянціна Роўда, педагог дадатковай адукацыі:**

– На сённяшні дзень піцэрыя – вельмі добрае і ўтульнае месца для адпачынку. Хоць у Мядзеле кавярняў і нямнога, але ці трэба іх больш, цяжка сказаць, бо людзі ў нас асабліва туды не ходзяць.

**Таццяна Лагунова, банкаўскі работнік:**

– Асабліва ў кавярні не хаджу, толькі летам з дзецьмі ў "Залатую рыбку", што на беразе возера. Весь такіх кавярняў трэба больш, і каб на самім пляжы яна працавала.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

Рэгіянальная газета. Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6250 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 21 (943) 24.05.2013.
Друкарня ТДА "Знамение". Г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 431. Падпісана ў друк у 10.00 23.05.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.